


# Рэгіянальная газета.

Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

5 сакавіка 2021 года №10 (1349)

18+

На здымку Паліна Горыд.

Фота Юрыя ГОРЫДА, фотастудыя ў Астраўцы па адрасе: К. Маркса, 1.
(8-029) 66-11-060
horid85@mail.ru.
@goridphoto

# Віншуем з 8 Сакавіка!

«Няма часу марнаваць сябе». Як працуюць валанцёры

старонка 20

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by





З Маладзечанскага РАУС пасля 15 сутак выпусцілі затрыманых лыжнікаў

старонка 8

Як у сярэдзіне 1940-х жылі выхаванцы дзіцячага дома на Вілейшчыне

старонка 17




Фота Насасці УПІНАЙ.

Такую меру ўводзілі ў мінулым годзе, але хутка адмянілі.

# У Беларусі замарозілі цэны на тавары першай неабходнасці

**Урад Беларусі замарозіў цэны на сацыяльна значныя тавары першай неабходнасці і шэраг лекаў.**

Да канца лютага вытворцам, пастаўшчыкам і гандлю забаранілі падымаць цэны, а ад 1 сакавіка – не больш чым на 0,2% у месяц. Рашэнне чыноўнікі прынялі пасля павышэння падатку на дададзеную вартасць лекаў, медыцынскіх вырабаў і некаторыя прадукты. У тым ліку з-за гэтага выраслі рознічныя цэны, а гадавая інфляцыя разагналася да 7,7%.

### Што змянілася

Ад 1 сакавіка змяненне цэн на сацыяльна значныя тавары першай неабходнасці не можа перавышаць 0,2% у месяц. У аснове ляжыць цана на тавар на апошні дзень папярэдняга месяца. У выпадку, калі гэтага тавару не было ў наяўнасці, то за аснову возьмуць тавар той жа разнавіднасці.

Павышэнне цэн вышэй за 0,2% у месяц могуць дапусціць толькі па ўзгадненні з камісіяй па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце Міністраў.

### Што гэта за тавары

Уводзяцца абмежаванні па росце цэн на прадукты і тавары, якія ўваходзяць у спіс сацыяльна значных. Усяго – 62 пазіцыі.

Гэта рыс, грэчка, аўсянка, ячныя крупы, проса, хлеб, макарона, ялавічына, свініна, некаторыя віды кілбасы і малочнай прадукцыі, жывая рыба, яйкі, бульба, распушчальная кава, чай, цукар, соль, туалетная папера, падгузнікі, запалкі.

У спісе лекаў – 50 пазіцый. У ім таксама адзначаюцца пэўныя вытворцы лекаў.

### Замарозка цэн была ў 2020 годзе, але яе адмянілі

30 сакавіка 2020 года Савет Міністраў прыняў пастанову з мэтай стабілізацыі сітуацыі на спажывецкім рынку. Тады вытворцам і пастаўшчыкам забаранілі падымаць цэны вышэй, чым на 0,5% у месяц. Гэтая мера ўзбурыла беларускі рынак, таму пастанову хутка адмянілі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Дайджэст: Прысуд журналістцы і кантроль за заробкамі ў канвертах

## Прыгадваем, што адбывалася ў Беларусі цягам апошняга тыдня

**Прапануем вам агляд асноўных падзей, якія адбыліся ў Беларусі на мінулым тыдні.**

### Пробную партыю расійскай вакцыны «Спутник V» выпусцілі ў Беларусі

Пра гэта паведаміў міністр аховы здароўя **Дзмітры Піневіч**. Расійскі фонд прамых інвестыцый (РФПІ), АТ «Генерыум» і РУП «Белмедпрэпараты», найбуйнейшае беларускае фармацэўтычнае прадпрыемства, запускаюць вытворчасць расійскай вакцыны «Спутник V» супраць каранавіруса. На пляцоўках «Белмедпрэпаратаў» па расійскай тэхналогіі разліты першыя валідацыйныя серыі гэтай вакцыны. «Пасля атрымання вынікаў вывучэння стабільнасці першых серый вакцыны «Спутник V» будзе праведзеная напрацоўка прамысловых серый прэпарата», – дадаў Дзмітры Піневіч. Беларусь стала першай дзяржавай пасля Расіі, якая афіцыйна зарэгістравала «Спутник V».

### Маладзечанская ЦРБ – у тройцы лепшых ва ўсёй Беларусі

Пра гэта паведамляе Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. Тут падвялі вынікі рэспубліканскага агляду якасці і культуры медыцынскага абслугоўвання насельніцтва за 2020 год. Па выніках конкурсу, сярод цэнтральных раённых бальніц трэцяе месца ў рэспубліцы заняла Маладзечанская, саступіўшы Жлобінскай і Лунінецкай.

### Асудзілі журналістку Кацярыну Барысевіч і доктара Арцёма Сарокіна

Журналістку Кацярыну Барысевіч асудзілі на шэсць месяцаў калоніі. Арцём Сарокін атрымаў два гады з адтэрміноўкай. Апошняе судовае пасяджэнне адбылося 2 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. Доктара Арцёма Сарокіна і журналістку Tut.by Кацярыну Барысевіч затрымалі 19 лістапада. На думку Генпракуратуры, яны выдалі медыцынскую таямніцу аб стане **Рамана Бандарэнкі**, што пацягнула цяжкія наступствы, а менавіта «павышэнне напружанасці ў грамадстве і стварэнне атмасферы недаверу да кампетэнтных дзяржаўных органаў». Максімальнае пакаранне, якое пагражала па артыкуле, – да трох гадоў пазбаўлення волі. Пасяджэнне аб'явілі закрытым. Пра гэта папрасіў пракурор, яго хадайніцтва задаволілі, хоць абвінавачаныя, іх абаронцы і мама загінулага Рамана Бандарэнкі выказаліся супраць закрыцця працэсу.

Прыгавор агучваўся ў адкрытым рэжыме. Кацярыну Барысевіч асудзілі на рэальны тэрмін – шэсць месяцаў калоніі і штраф 2900 рублёў. На свабоду яна павінна выйсці 19 мая. Арцёма Сарокіна прысудзілі да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год. Яго вызвалілі ў зале суда.

### Сталі вяртацца першыя пералётныя птушкі

Нягледзячы на марозную і снежную зіму, на поўдні і захадзе краіны ўжо заўважылі першых птушак-мігрантаў – шэрых гусей бачылі і над Гродна, яны ляцелі ўздоўж Нёмана ў бок Літвы. А пад Брэстам заўважылі палявых жаўрукоў.

### Узмацнілі кантроль за выплатай заробкаў у канвертах

Пра магчымае пакаранне тых, хто атрымлівае заробкі ў канвертах, Лукашэнка заявіў 1 сакавіка, прымаючы з дакладам старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю **Васіля Герасімава**.

«Па заробках у канвертах мы без вас не абыдземся. Трэба раз і назаўжды спыніць гэту гадзіну, каб гэта гідра ніколі галаву ў нас не падняла. Я не скажу, што ў нас гэта квітнее, але гэта ёсць. І нават на мяне выходзяць асобныя камерсанты, бізнесмены і скардзяцца: вось мы плацім па ведамасці, усё як мае быць (і ад гэтага ж налічэнне ідзе ў сацыяльныя фонды). А вось там не плацяць. Нават называюць канкрэтныя фірмы», – сказаў Лукашэнка.

У той жа дзень на сайце Мінаблвыканкама з'явілася навіна, што на Міншчыне ўзмацнілі кантроль за выплатай заробкаў у канвертах.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя, «Нашай Нівы», Мінаблвыканкама, БелТА.**



Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.

Вучымся ўтылізаваць лекі правільна.

# Школьнікі выступаюць за збор пратэрмінаваных лекаў у аптэках

## З гэтай ініцыятывай яны звярнуліся да дэпутатаў

МЯДЗЕЛ

**Навучэнцы гімназіі-інтэрната Мядзела разам з настаўніцай хіміі Наталляй Клімовіч зацікавіліся тэмай правільнай утылізацыі лекаў.**



Падчас аднаго з экалагічных мерапрыемстваў у гімназіі.

Яны ўключыліся ў інфармацыйную кампанію Цэнтра экалагічных рашэнняў «Лекам не месца ў вадзе і ежы!». Ініцыятыўная група звярнулася ў раённы Савет дэпутатаў з прапановай аб усталяванні кантэйнераў па зборы пратэрмінаваных медпрэпаратаў у аптэках Мядзела і Мядзельскага раёна.

### У чым праблема

Многія з нас няправільна ўтылізуюць нявыкарыстаныя, пратэрмінаваныя лекі. Але ж галоўным правілам утылізацыі лекаў з'яўляецца наступнае: ні вадкія, ні здробненыя цвёрдыя формы нельга змываць у каналізацыю. З часам яны трапляюць у грунтавыя воды, а значыць, і ў нашы вадаёмы. Лекі выклікаюць мутацыю і паталогіі ў рыб. Антыбіётыкі ў вялікай канцэнтрацыі прыводзяць да страты фітапланктону – дробных арганізмаў, якія адказваюць за фотасінтэз у водарасцях. Антыбіётыкі таксама назапашвацца ў арганізме рыб і жывёл. Гарманальныя супрацьзачаткавыя прэпараты ўплываюць на размнажэнне рыб: яны не могуць адкладаць ікру. Выключэнне складаюць лекі, якія цалкам раствараюцца ў вадзе.

Цвёрдыя формы – таблеткі – некаторыя выкідаюць у сметніцу, і яны наўпрост трапляюць на палігон бытавых адходаў, а значыць, у ежу дзікіх жывёл і птушак на сметніку.

### Як паступаць правільна

Перш чым выкінуць прэпарат, звярніце ўвагу на яго ўпакоўку. Кардонную каробку можна адправіць у кантэйнер для кардону, а шкляны флакон – для шкла. Фальгіраваную ўпакоўку трэба выкідаць у агульныя адходы, бо яна не перапрацоўваецца. У ідэале вадкія і цвёрдыя формы пратэрмінаваных медпрэпаратаў павінны паступаць у перапрацоўку на спецыяльныя камбінаты.

Шпрыцы трэба выкідаць у кантэйнер для пластыку. А іголкі рэкамендуецца сагнуць абцугамі, каб выключыць магчымасць іх паўторнага выкарыстання. Выкідаць іх можна і ў агульнае смецце, але папярэдне варта загарнуць у пакет, каб ніхто не параніўся.

Калі ў вас разбіўся ртутны тэрмометр, неабходна выклікаць працаўнікоў МНС – яны правядуць дэмеркурызацыю.

Гэтыя нескладаныя правілы дапамогуць нам з вамі крыху дапамагчы сабе і нашай планеце, якая ўступае ў экалагічны крызіс.

А мы спадзяёмся, што дэпутаты падтрымаюць нас і ў аптэках з'явяцца пункты здачы нявыкарыстаных лекаў, якія пасля правільна перапрацуюць.

**Ксенія СЯКЛЮЦКАЯ,**
**вучаніца 8 класа**
**гімназіі-інтэрната Мядзела.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**6** дзён

столькі склала сярэдняя працягласць знаходжання ў Беларусі замежных турыстаў у 2020 годзе.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.02 | 4.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.6036 | **2.6073** |
| **Еўра** | 3.1684 | **3.1529** |
| **Злоты, 10** | 7.0108 | **6.9527** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.5310 | **3.5453** |
| **Грыўня, 100** | 9.3135 | **9.3788** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **24.02** | **5.03** |
| **Еўра** | 3.1000/3.2200 | **3.1100/3.2100** |
| **Долар ЗША** | 2.5700/2.6400 | **2.5700/2.6500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **24.02** | **5.03** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 20,71 | **20,71** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Сасіскі, 1 кг** | 7,40 | **7,40** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,00 | **9,00** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 5,00 | **4,90** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 4,40 | **4,40** |
| **Селядзец, 1 кг** | 6,20 | **6,20** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 18,80 | **18,80** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 2,15 | **2,15** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 2,40 | **2,40** |
| **Алей, 1 л** | 3,90 | **3,90** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,20 | **2,20** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,70 | **1,70** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 2,00 | **2,00** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 2,40 | **2,40** |
| **Агуркі, 1 кг** | 4,90 | **5,50** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 7,90 | **6,90** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,65 | **1,00** |
| **Буракі, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Капуста, 1 кг** | 0,79 | **0,75** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,50 | **2,50** |
| **Морква, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Памідоры, 1 кг** | 4,80 | **4,50** |
| **Перац, 1 кг** | 5,90 | **8,50** |
| **Салата, пучок** | – | **0,70** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Часнок, 1 кг** | 6,90 | **6,90** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 5,90 | **6,50** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Бананы, 1 кг** | 4,20 | **4,20** |
| **Вінаград, 1 кг** | 3,90 | **3,90** |
| **Гранат, 1 кг** | 6,50 | **6,50** |
| **Грушы, 1 кг** | 3,50 | **3,90** |
| **Ківі, 1 кг** | 4,90 | **4,50** |
| **Лімон, 1 кг** | 4,80 | **4,50** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 4,30 | **4,50** |
| **Хурма, 1 кг** | 4,90 | **4,90** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,70 | **1,70** |
| **Масла, 1 кг** | 18,00 | **18,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Сыр, 1 кг** | 14,00 | **14,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 8,00 | **8,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 4,00 | **4,00** |

## «Форд» наехаў на «Аўдзі», а пасля ўрэзаўся ў дрэва

**МАЛАДЗЕЧНА**

25 лютага каля паловы чацвертай вечара адбылося ДТЗ у Маладзечанскім раёне, каля павароту на вёску Лешна. Пацярпеў адзін з кіроўцаў. Падрабязнасці расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**:

– 24-гадовы маладзечанец на «Фордзе-Мандэа» ехаў па аўтадарозе Р106 у кірунку Смаргоні. Ля павароту на вёску Лешна наехаў на «Аўдзі-Q7», якой кіраваў 43-гадовы жыхар Лебедзева. Ён прыпыніўся і збіраўся паварочваць налева, на вёску Лешна.

Па словах інспектара, у выніку наезду адбыўся занос: «Форд-Мандэа» з'ехаў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва. Кіроўцу шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне дзіцячай бальніцы.

Матэрыялы аварыі – на праверцы ў АДАІ Маладзечна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жанчыну падазраюць у буйным махлярстве

**АШМЯНЫ**

Па дадзеных следства, ад жніўня 2019 года да снежня 2020 года 30-гадовая жыхарка Ашмянаў угаворвала знаёмых пазычыць ёй грошы на развіццё бізнесу і набыццё кватэры. Усяго жанчына атрымала ад знаёмых 66 850 долараў і 18 250 еўра.

Падазраваная абяцала вярнуць доўг у бліжэйшы час і яшчэ з працэнтамі, аднак прынятыя на сябе абавязацельствы не выканала ў поўным аб'ёме. Бізнес і кватэру, на якія яна пазычала, не набыла, а грошы патрацiла на асабістыя патрэбы.

Узбудзілі крымінальную справу па частцы 4 артыкула 209 (махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса. Праводзяць следчыя дзеянні.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Аўтамабіль збіў пешахода. Пацярпелую шпіталізавалі

**ВІЛЕЙКА**

ДТЗ адбылося 24 лютага каля дзесяці раніцы на вуліцы 17 Верасня ў Вілейцы. У ім пацярпела 69-гадовая жанчына-пешаход.

– Жыхар Вілейшчыны на «Фольксвагене-Пола» ехаў па вуліцы 17 Верасня ў кірунку вуліцы Ігната Ходзькі. Абганяючы аўтобус, выскачыў на сустрэчку і наехаў на жанчыну, якая ішла па нерэгуляваным пешаходным пераходзе. Абгон адбываўся бліжэй чым за 50 метраў да перахода, – расказаў старшы дзяржаўтаінспектар АДАІ Вілейшчыны **Генадзь Сяськоў**.

Па яго словах, пацярпелую з траўмамі забралі ў Вілейскую ЦРБ.

Нагадаем, што згодна з Правіламі дарожнага руху (глава 12, пункт 96.3) абгон забараняецца на пешаходных пераходах і бліжэй за 50 метраў ад іх у абодва бакі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Падазраюць, што ў краме мужчына прыхапіў набор для малявання

**МАЛАДЗЕЧНА**

Інцыдэнт адбыўся 2 лютага каля 19 гадзін. 11-гадовы хлопчык прыйшоў у супермаркет на вуліцы Вольнай. Падчас аплаты пакінуў каля касы папку для малявання. Пасля чаго выйшаў з крамы. Калі праз пяць хвілін дзіця вярнулася за забытай рэччу, яе ўжо на месцы не аказалася. У зніклай папцы ляжалі аркушы для малявання, наборы фарбаў і пэндзляў. Папка і прылады для малявання ў ёй ацэньваюцца ў 280 рублёў.

Вывучыўшы запісы з камер відэаназірання, спецыялісты ўстанавілі, што ў чарзе за непаўнагадовым стаяў невядомы мужчына. Убачыўшы пакінутае без нагляду, пакупнік прыхапіў папку для малявання і панёс з сабой.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Жанчына апякла рукі і спіну, калі самастойна тушыла дом

**АШМЯНЫ**

Пра пажар ашмянскім выратавальнікам паведамілі 25 лютага вечарам, каля паловы дзясятай.

Гарэў жылы дом у вёсцы Кракоўка. Агонь знішчыў дах, пашкодзіў перакрыцці, сцены і маёмасць. Пацярпела таксама 31-гадовая гаспадыня дома. Яна спрабавала патушыць пажар самастойна і ў выніку атрымала апёкі 1-3 ступеняў абедзвюх рук і спіны. Пацярпелую забралі ў бальніцу. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**



Фота з сайта Вярхоўнага суда.

На месцы здарэння.

# Суд пакараў матацыкліста, які насмерць збіў жанчыну

### Яго пазбавілі правоў на пяць год і прысудзілі чатыры гады «хіміі»

**ВАЛОЖЫН**

**Смяротная аварыя здарылася летась у жніўні на вуліцы Шчарбіны ў Валожыне.**

22 лютага суд Валожынскага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачанні 27-гадовага, раней не судзімага кіроўцы, па частцы 2 артыкула 317 КК.

Згодна з матэрыяламі следства, абвінавачаны **К.** вечарам на матацыкле «Хонда» ехаў па горадзе з хуткасцю 91,5 км/гадз. Назіраючы да абазначанага нерэгуляванага пешаходнага перахода, праявіў недбайнасць і няўважлівасць, не прыняў своечасовых мер да зніжэння хуткасці, не саступіў дарогу пешаходу **В.** Кіроўца ўжыў няправільныя прыёмы кіравання сваім матацыклам, пачаў аб'язджаць пешахода з левага боку. Для гэтага выехаў на паласу сустрэчнага руху, прымяніў экстранае тармажэнне, у працэсе якога перамясціўся на нерэгуляваны пешаходны пераход, дзе наехаў на пешахода В.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння пешаходу В., жанчыне, прычыненыя цяжкія цялесныя пашкоджанні, ад якіх яна памерла на месцы здарэння.

К. прызнаны вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Яму прызначылі пакаранне ў выглядзе абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу на чатыры гады з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі, на пяць гадоў.

Суд пастанавіў спагнаць з абвінавачанага на карысць пацярпелай **Л.** грашовую кампенсацыю маральнай шкоды – 7 000 рублёў.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Паводле Вярхоўнага суда.**

## Жыхар Радашкавічаў загінуў пад цягніком

**МАЛАДЗЕЧНА**

Трагедыя здарылася ў суботу, 27 лютага, расказалі карэспандэнту ва Упраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці.

На чыгуначным прыпынку «Лябяжы» пасажырскі цягнік Гродна-Мінск смяротна траўмаваў 29-гадовага мужчыну, жыхара Радашкавічаў. Следчыя праводзяць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына ўчадзеў і памёр

**АШМЯНЫ**

У Ашмянскім раёне мужчына атруціўся чадам.

2 сакавіка ў 3:50 выратавальнікам паведамілі пра загінулага 49-гадовага грамадзяніна. Яго знайшлі ў жылым доме па вуліцы Зялёная Дубрава на станцыі Ашмяны.

Як мяркуецца, прычына гібелі – атручэнне чадам у выніку таго, што зарана закрылі засланку коміна печы.

**Паводле МНС.**

## Кіроўца тушыў трактар і трапіў у бальніцу

**МАЛАДЗЕЧНА**

26 лютага каля дзвюх гадзін дня маладзечанскім выратавальнікам паведамілі пра загаранне трактара МТЗ-82.1 у Алёхнавічах.

Трактар гарэў у гаражы на тэрыторыі цягавай падстанцыі «Алёхнавічы» УП «Мінскае аддзяленне БЧ». Пры самастойным тушэнні атрымаў апёкі рознай ступені цяжкасці і атручэнне прадуктамі гарэння работнік прадпрыемства, які шпіталізаваны. У выніку агонь знішчыў трактар і маёмасць у гаражы, закурыў сцены і столь. Прычыну ўстанаўліваюць.

**Паводле МНС.**

## У Чысці загінуў 29-гадовы рабочы, які рамантаваў МАЗ

**МАЛАДЗЕЧНА**

Як расказалі ва Упраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці, трагедыя адбылася 1 сакавіка днём на тэрыторыі ААТ «Забудова-буд».

– 29-гадовы мужчына быў на працоўным месцы, на тэрыторыі вытворчай базы прадпрыемства. Падчас рамонту МАЗа ён быў траўмаваны і загінуў на месцы. Па папярэдняй інфармацыі, у машыны выбухнула кола, – адзначылі ў Следчым камітэце.

На месца выбывала следча-аператыўная група. Прызначылі судова-медыцынскія экспертызы. Маладзечанскі РАСК праводзіць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Гадаваліся без хлеба, але родная мова і песня заўсёды былі з намі

## Былы старшыня аб'яднання «Краяны» – пра сябе, Украіну і Беларусь

**Маладзечанцам Леанід Лысакабылка стаў у 1979 годзе. Прызнаецца, што за гэты час палюбіў Беларусь, а яе гісторыю ведае лепш, чым украінскую.**


Фота забяспечанае героем публікацыі.

Украінскія строі Леаніду Лысакабылку шые і вышывае жонка.

МАЛАДЗЕЧНА

У жыцці нашага героя было шмат гарадоў і прафесій, але родную мову і культуру ён ніколі не забываў. У Маладзечне некалькі год кіраваў украінскім аб'яднаннем «Краяны» і сёння ўдзельнічае ў яго працы як намеснік старшыні. Напярэдадні свайго 80-годдзя пан Леанід расказаў пра сябе, Украіну і Беларусь.

### Пра Украіну свайго дзяцінства

– У родным сяле Тарасаўка Харкаўскай вобласці нас у бацькоў было васьмёра – сем хлопцаў і дзяўчына. Я – чацвёрты, даваенны. Маці заўсёды плакала нада мной, здзіўлялася, як я выжыў. Увогуле я нарадзіўся ў студзені 1941, перад Калядамі. Але падчас вайны наша хата гарэла, а з ёй – дакументы. Пасля бацька рабіў новыя. І запісаў мой дзень нараджэння – 6 сакавіка.

Сяло наша – не цэнтральнае, у тры вуліцы. Хата стаяла з самага краю, за хатай – поле шаўкоўніцы. Яе пасадзілі, бо ў калгасе вырошчвалі шаўкапрадаў. Нашай сям'і далі запалкавы карабок чарвякоў, а здалі мы два ці тры мяхі коканаў. У хаце і ў хляве стаялі для шаўкапрада стэлажы. Мне трэба было прыносіць галінкі і лісты шаўкоўніцы і карміць шаўкапрада. У гаспадарцы дома таксама трымалі гусей, трусоў. Гусей забівалі і везлі на базар у Харкаў. За гэтыя грошы куплялі для школы касцюм, кашулю, партфель.

Бацька заўсёды гаварыў так: «Сынок, я цябе кармлю і апранаю, пакуль ты ходзіш у школу. Як скончыш школу, калі добры сын – дапамагай бацьку, калі – не, то ідзі, больш карміць не буду». Я гэта ўсвядоміў з дзяцінства. Першы з дзяцей скончыў 10 класаў у 1958 годзе. Пасля школы, каб больш не адчуваць сябе нахлебнікам, разам з сябрам пайшлі ў вучылішча на трактарыстаў-машыністаў за 30 кіламетраў ад сяла.

Бачыце, Украіна майго дзяцінства была халодная і галодная, без гулянак і вышыванак, якія цяпер малюють на карцінках. Але ўкраінская мова і песня з намі былі заўсёды.

### У калгас? Не! Лепш на цаліну

Як скончылі вучылішча, пагражалі накіраваць назад у калгас. А я сказаў: «Не. Назад у калгас не пайду». Бацька працаваў там механізатарам на трактары, і я ездзіў разам з ім. Добра ведаў галечу і заробкі працаднямі. Хацелася рамантыкі. А тут якраз фарміравалі групу на цаліну. І ў 1959 годзе паехаў туды. Думаў зарабіць. Але зарабіць не атрымалася, нават касцюм скралі. Ніякай рамантыкі не было: бруд, холад, голад, ні інтэрната, ні сталовай. Працаваў на трактары. Пойдзеш на працу дні на тры. З сабой бярэш бохан хлеба і пару цыбулін. А там у полі то сурка заб'еш, то качку.

### Пра розныя гарады і прафесіі

Пасля цаліны быў Кустанай, Магнітагорск. У Магнітагорску прыйшоў у ЖЭК уладкоўвацца на працу. Прапанавалі стаць сантэхнікам. А я і не ведаў, хто такі сантэхнік, бо па-руску не разумеў. Падумаў: слова прыгожае. І пагадзіўся. Падчас рамонту ў жаночым інтэрнаце пазнаёміўся з першай жонкай.

Пасля ў пошуках большага заробку ўладкаваўся ў арганізацыю па рамонце доменных печаў. Грошы плацілі добрыя. Папрацаваўшы тут, змог апрануцца, купіў штаны-дудачкі, гальштук, капялюш, кіёк, набраў падарункаў і першы раз за пяць год прыехаў у сваю Тарасаўку. Крыху пабыў і зноў з'ехаў. А там хутка ў 1962 годзе забралі ў армію. Трапіў служыць у першае кола супрацьпаветранай абароны Масквы. Пасля таго як я аблазіў доменныя печы, араў цаліну і галадаў у дзяцінстве, войска мне далося лёгка.

Праз пэўны час, ужо разам з жонкай, паехаў падымаць іншую цаліну – херсонскія стэпы. Прыехалі туды – стаіць цэлая вуліца новых дамоў. Выбірай любы – і жыві. На палях – чарназём, растуць вялізныя каласы. Тут нарадзілася дачка. З камбайна перайшоў на машыну, вазілі з Адэсы цэмент. Усё было нядрэнна, але жонцы не падыходзіў сухі клімат. Вымушаныя былі паехаць да яе на радзіму, у раённы цэнтр Агапаўка, у Расіі.

### Калі партыя кіравала міліцыяй

Я па-ранейшаму марыў вучыцца. Бацька некалі мне сказаў, што вельмі хоча, каб нехта з дзяцей атрымаў вышэйшую адукацыю. На радзіме жонкі пайшоў працаваць у ДАІ. А праз пару год паступіў у філіял Маскоўскай акадэміі МУС у Свярдлоўску. Пасля паступлення перавёўся ў крымінальны вышук, а на чацвёртым курсе прапанавалі пасаду намесніка начальніка міліцыі.

У першым сваім аддзеле даведаўся пра злачынства, якое ўчынілі райкамаўскія бракан'еры – незаконна забілі некалькі казуль. Я выклікаю следчага па асоба важных справах. А ён – першага сакратара на допыт. А гэта ж часы Брэжнева – партыя кіруе міліцыяй. Майго начальніка за гэту справу знялі з пасады. А я праз нейкі час перайшоў у іншы аддзел недалёка ад Чалябінска. І зноў трапілася справа: старшыня калгаса прадаў налева збожжа. Я – за справу, а першы сакратар райкама загадвае, каб я яе спыніў. Усё пайшло наперакасяк і дома, і на працы.

### І трапіў у Маладзечна...

У 1979 годзе трапіў у Маладзечна. Уладкаваўся на ЗЛМК, стаў памочнікам дырэктара **Самарына**. На заводзе адпрацаваў 24 гады. Быў галоўным дыспетчарам, намеснікам начальніка аддзела кадраў, намеснікам па рэжыме, начальнікам аховы. У вольны час таксаваў. Дзякуючы гэтаму добра вывучыў і горад, і раён.

### Курсы экскурсаводаў. Каханоўскі. Ермаловіч

У пачатку 1980-х трапіў на курсы экскурсаводаў. Лекцыі чыталі **Генадзь Каханоўскі** і **Мікола Ермаловіч**. Чыталі па-беларуску. Мне вельмі запомніўся такі выпадак. Адзін са слухачоў кажа Каханоўскаму: «А вы б не маглі чытаць па-руску?». А той яму: «Не, даруйце. Гэта мая родная мова, і я на ёй буду размаўляць».

Экскурсаводства дало шмат. Гісторыю Беларусі я цяпер ведаю лепш, чым гісторыю Украіны. Для экскурсій распрацоўваў тэмы «Радзіма Дзяржынскага», «Партызаны Нарачанскага краю, «Вільня». Як экскурсавод шмат гарадоў былога Саюза аб'ездзіў з групамі турыстаў – Гурзуф, Алушта, Адэса, Рыга… Ездзіў летам, падчас адпачынку на заводзе. Два гады быў дырэктарам курсаў па падрыхтоўцы экскурсаводаў.

### «Краяны»

Даведаўшыся, што я з Украіны, мяне запрасілі ў маладзечанскае аб'яднанне ўкраінцаў «Краяны», якім кіраваў **Мікалай Слабадзюк**. Аб'яднанне ён арганізаваў у 1991 годзе. Я пайшоў, хоць не лічыў сябе выдатным спеваком. На мерапрыемствах «Краянаў» пачаў чытаць украінскія байкі. А пасля смерці Слабадзюка мяне абралі старшынёй. Ладзіў мерапрыемствы, вазіў «Краянаў» на фестываль нацыянальных культур у Гродна. На нейкі час дабіўся, каб нам далі пакой. Тут павесіў партрэты ўкраінскіх гетманаў, размясціў кнігі на ўкраінскай мове. Цяпер кіраўніцтва перадаў **Ясеніі Мікуліч**. Сам стаў намеснікам. У аддзеле ідэалогіі, культуры і па справах моладзі зноў паабяцалі вырашыць пытанне з пакоем для нас.

### Пра ўкраінскія стравы

Мая жонка **Лілія** – беларуска, але варэнікі варыць умее. Калі мы прыязджалі ў Палтаву да маёй сястры, тая навучыла яе рабіць пышнае цеста. Робім варэнікі з вішнямі, малінамі, сырам, паслёнам. Паслён у Беларусі не расце. Гэта чорная ягада, падобная да чарніц, але на смак іншая.

З дзяцінства памятаю, як маці варыла буракавую юшку, і тады яна падавалася смачнай. А цяпер неяк захацеў прыгадаць дзяцінства, папрасіў жонку прыгатаваць такую ж. Аказалася, нясмачная зусім.

А яшчэ памятаю, як у Тарасаўцы на гарышчы захоўвалася сала ў скрынях, перасыпанае соллю, як гатавалі залітыя тлушчам кілбасы. У Палтаве, дарэчы, і цяпер прадаюцца такія кілбасы разам з талеркай.

### Што адчуваеце, калі вам кажуць «Хочаце, як ва Украіне?»

– Адказваю: Так, хачу, як ва Украіне. Там людзі вольныя. Чалавек хоча адкрыць сваю справу, адкрывае і робіць. І ніхто не дае за гэта штрафаў. Цэны і ў Беларусі, і ва Украіне амаль аднолькавыя. Ва Украіне шмат прыватнікаў. Яна ўжо даўно капіталістычная, а Беларусь – да сёння сацыялістычная. Ва Украіне – вясёлыя людзі, яны збіраюцца з суседзямі, ладзяць танцы. У Беларусі вы ўяўляеце такое?

### Пра ўкраінскія песні

Мая маці вельмі добра спявала. Украінскія песні я чуў ад калыскі. А бацька сам зрабіў вялікі бубен. Забіў цяля, скуры вырабіў, з артылерыйскіх гільзаў зрабіў дзве талеркі.

Цяпер дома ў мяне шмат украінскіх песеннікаў. Дзе б я ні быў, заўсёды спяваю. Песні люблю казацкія і лірычныя. Дарэчы, нашы песні, з Палтаўшчыны, больш працяглыя, пявучыя. Відаць, ад таго, што жывём у шырокім стэпе. А ў Заходняй Украіне – песні больш хуткія.

### Пра беларусаў і Беларусь

Беларусы мне падабаюцца тым, што яны спакойныя, не такія імпульсіўныя, як мы, украінцы. Не падабаецца, што беларусы часта пазбягаюць размоў пра палітыку. Беларус, на маю думку, – антырэвалюцыянер. Але пасля жніўня ўлада з беларусамі абышлася жорстка. Мне хочацца, каб беларус запомніў гэта на ўсё жыццё.

Беларускую мову разумею добра, на ёй чытаю і пішу. А Беларусь люблю шмат за што. У тым ліку за цудоўную прыроду і прыгожыя лясы, якіх няма ў тым месцы, дзе я нарадзіўся.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) 53-78-04, 8 (029) 676-84-20.
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) 2-11-40.
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) 7-56-17.
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) 6-13-85.
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) 2-00-83, 2-01-03.
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) 5-52-33, 5-55-39.
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) 5-52-66, 5-57-65.
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) 4-47-16.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра G, 2000 г.в., 1,7 ТД, універсал. Т. МТС (8-029) 8547426.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вуліца Кастрычніцкая, 2 паверх. Т. (8-01771) 39721, (8-029)5717517.

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна, 4 паверх/5, цэгла, 45/26/10, з рамонтам. Т. (8-029) 3196253.*

• Гараж у ГК №32 (Фестывальны). Атынкаваны, пафарбаваны, падвал на ўвесь гараж, забетанаваны. Крыйні каля агароджы, ёсць магчымасць пашырэння. Т. (8-029) 3593950.*

• Гараж у раёне СПТВ. Т. (8-044) 5148342.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Талуць Вілейскага раёна. Гаспадарчыя пабудовы, водаправод. Т. (8-029) 8638553.*

• Дом у вёсцы Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак. Т. (8-029) 7674753, (8-033) 3256297.*

• Зямельны ўчастак з пабудовамі, насаджэннямі, абгароджаны, 0,10 га, у в. Кардон Вілейскага раёна. Т. (8-044) 5148342.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• Кватэру ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 2103019.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на доўгі тэрмін. Пажадана без мэблі. Аплату гарантую. Т. (8-029) 1774245 пасля 17.00.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант» 2-кампрэсарны з ніжняй маразільнай камерай (4 карзіны). Сярэбраны. Стан ідэальны. Цана 650 руб. (торг). Т. (8-029) 1774245 пасля 17.00.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, А1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дзверы металічныя б/у. Т. (8-029) 2311625.

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*



**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### МЯНЯЮ

• 4 пеўні (8 мес.) на 4 курыцы. Т. (8-044) 7438947.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады
Аддзел рэкламы: (8-0176) 53-78-04 (тэл./факс), (8-029) 676-84-20, 573-28-47
E-mail: reklama@rh.by

# Дзяржнагляд праверыў крамы адзення і абутку з Сярэдняй Азіі

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВІЛЕЙКА**
**МЯДЗЕЛ**

**Па-ранейшаму сярод насельніцтва карыстаецца попытам адзенне і абутак з Сярэдняй Азіі, прапанаваныя да продажу па экстрэмальна нізкіх цэнах у параўнанні з цэнамі на аналагічную прадукцыю айчынных вытворцаў.**


Фота onliner.

**Адзенне і абутак з Сярэдняй Азіі каштуе значна танней за падобныя беларускія тавары.**

Не сакрэт, што падобныя тавары пастунаюць на рынак кантрафактным шляхам і ў сваёй большасці ўключаюцца ў гандлёвы абарот без праходжання працэдур абавязковага пацвярджэння адпаведнасці патрабаванням тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза, Еўразійскага эканамічнага саюза, што абумоўлівае іх нізкі кошт.

У лютым бягучага года па выніках аддзел дзяржаўнага нагляду за тэхнічнымі рэгламентамі і стандартамі і дзяржаўнага метралагічнага нагляду Маладзечна праверылі юрыдычную асобу, зарэгістраваную ў Вілейскім раёне, якая прадавала адзенне для дарослых і дзяцей па нізкіх цэнах і іншую прадукцыю лёгкай прамысловасці.

**У выніку зачынілі тры крамы.**

Таксама забаранілі рэалізацыю 13 партый прадукцыі на суму 994 рублі.

Асноўнымі парушэннямі былі:

• адсутнасць дакументаў аб ацэнцы адпаведнасці;

• парушэнні па маркіроўцы (поўная адсутнасць маркіроўкі, адсутнасць назвы і адраса вытворцы або імпарцёра).

За аналагічныя парушэнні ў 2020 годзе аддзел дзяржнагляду прыпыніў працу дзевяці гандлёвых аб'ектаў у Маладзечанскім, Вілейскім і Мядзельскім раёнах.

**Георгій ЧАРНЯЎСКІ,**
**начальнік аддзела дзяржнагляду Маладзечна Інспекцыі дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску.**

## Як правільна і бяспечна распаліць вогнішча

Выбіраючыся час ад часу на прыроду, мы прывыклі разводзіць вогнішча для прыгатавання шашлыкоў або проста, каб сагрэцца халаднаватым вечарам. Але часта развядзенне вогнішчаў у многіх месцах забароненае законам, напрыклад, у запаведніках. Таму, прыйшоўшы ў лес, неабходна памятаць аб правілах пажарнай бяспекі, каб не нашкодзіць прыродзе і не атрымаць штраф.

Калі прыйдзеце ў лес, пераканайцеся, што на гэтай тэрыторыі дазваляецца разводзіць вогнішчы.

Асноўныя правілы пры развядзенні вогнішчаў:

• развесці вогнішча дазваляецца толькі тады, калі няма ветру;

• неабходна ўвесь час быць каля разведзенага вогнішча;

• побач трэба мець вогнетушыцель альбо лапату, альбо вядро з вадой, каб пры неабходнасці вогнішча затушыць;

• ведайце, што разводзіць вогнішча дазваляецца на адлегласці восем метраў ад будынкаў, 20 метраў ад лясоў і 30 – ад сціртаў сена і саломы;

• забаронена разводзіць вогнішча ў іглічных маладняках, побач з дрэвамі, на лесасеках, на тарфяніках і ўчастках з сухой травой, мохам, на лесапасадках;

• пакідаючы месца адпачынку, абавязкова затушыце вогнішча;

• памятайце, калі ўсталявалася на доўгі час сухое надвор'е, заканадаўствам можа быць забаронена наведванне лясоў. Аб гэтым вы можаце даведацца ў мабільным прыкладанні «МНС Беларусі. Дапамога побач!». У гэты час катэгарычна забараняецца не толькі разводзіць вогнішчы, але ўвогуле наведваць лясы.

За развядзенне вогнішчаў у забароненых месцах прадугледжаны штраф да 20 базавых велічынь – на сёння гэта да 580 рублёў. За выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэштkaў на палях альбо непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў – ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь – да 290 да 870 рублёў.

**ГРАНС Маладзечна.**

## Як выкарыстоўваць мангал, каб не было бяды

Лепш за ўсё смажыць шашлыкі на мангале. Агонь не зможа перакінуцца на сухія галінкі і лісце. Але пры гэтым неабходна таксама прытрымлівацца простых правілаў:

• кантраляваць вогнішча ў мангале. Побач пастаянна павінны нехта знаходзіцца;

• ад будынкаў мангал дазваляецца размяшчаць на адлегласці двух метраў;

• ні ў якім разе не дапускайце да мангалаў дзяцей;

• пасля таго як ежа прыгатуецца, неабходна затушыць вогнішча ў мангале.

Адпраўляючыся адпачываць на прыроду, неабходна быць акуратнымі і ўважлівымі да сваіх дзеянняў. Строга выкарыстоўваць і выконваць правілы бяспекі. Не варта забываць, што вогнішча без нагляду лёгка можа выйсці з-пад кантролю.

**ГРАНС Маладзечна.**

# «Справа лыжнікаў». Як затрымлівалі, судзілі і адпускалі маладзечанцаў

**14 лютага ля вёскі Лешна ў Маладзечанскім раёне супрацоўнікі міліцыі затрымалі 18 чалавек. Іх абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.**

### Суды ў аддзяленні міліцыі

14 лютага ля вёскі Лешна супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС затрымалі 18 чалавек, якія сабраліся пакатацца на лыжах. У людзей у машынах знайшлі бел-чырвона-белыя сцягі.

**Міліцыянеры палічылі, што маладзечанцы прынялі ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.**

Пяць мужчын і дзве жанчыны атрымалі 15 сутак, тром мужчынам далі 20 сутак. Яшчэ дзевяці жанчынам прысудзілі штрафы.

**Суды праходзілі ў будынку РАУС, на пасяджэнні ў актавай зале аддзялення прыязджалі суддзі з суда Маладзечанскага раёна.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Тамара Сіняўская пасля адбыцця 15 сутак.

Затрыманыя, якія пагадзіліся пагутарыць з карэспандэнтамі «Рэгіянальнай газеты», адзначылі, што іх судзілі **Аляксей Іршын** і **Іна Каханоўская**.

### Вызваленне з ізалятара

1 сакавіка з ізалятара часовага ўтрымання Маладзечанскага РАУС выпусцілі пяць мужчын і дзвюх жанчын, якіх асудзілі на 15 сутак.

Сярод тых, каго выпусцілі 1 сакавіка з маладзечанскага ізалятара па «справе лыжнікаў», – **Яўген Рабішка**. Ён расказаў, што яны спускаліся з горкі ўніз, калі сілавікі з'явіліся зверху.

– Стаяў, чакаў, калі забяруць. А куды дзявацца? Ніхто не супраціўляўся, нас не збівалі. Прывезлі ў РАУС, крыху стаялі ў ціры, пасля складалі пратаколы.

**Ніхто сілу не прымяняў, але і паслаблення не было. Пасадзілі ў «стакан», праседзеў там ноч. На раніцу завялі ў камеру.**

Вада была халодная, добра грэлі батарэі. Што там мужыкам трэба. Перадачы перадавалі. Дзякуй усім, хто перадаваў, – валанцёрам, сваякам і сябрам.

Рабішка працуе сісадмінам, ён не ведае, ці будуць наступствы на працы.

– Суд быў у міліцыі, суддзя Каханоўская. Паказанні даваў. А ў чым віну прызнаваць? У тым, што на лыжах паехаў катацца? Паслухалі мяне, паглядзелі запісы з «Дазораў», далі 15 сутак.

У ізалятары да 6 сакавіка яшчэ застаюцца трое мужчын.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пад Маладзечнам затрымалі 25 мінчукоў

27 лютага пад Маладзечнам, ля Гарадка, затрымалі групу людзей і даставілі ў мясцовы РАУС. Аб гэтым паведаміў незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна».

Высветлілася, што кампанія з Мінска прыехала на адпачынак, каб адсвяткаваць Масленіцу, пасмажыць шашлыкі.

– Ва ўдзельнікаў была бчб-сімволіка, а таксама фігура для спальвання ў адзенні колеравай гамы нацыянальнага сцяга. Свае дзеянні, якімі яўна выказвалі непавагу да грамадства, запісалі на камеры гаджэтаў, – пракаментавала «Інтэрфаксу» афіцыйны прадстаўнік УУС Мінаблвыканкама **Аляксандра Папова**.

**Людзей затрымалі на тэрыторыі катэджнага ўчастка супрацоўнікі АМАПа. Іх даставілі ў Маладзечанскі РАУС для разбору.**

На іх склалі адміністрацыйныя пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

– Акрамя таго, іх дзеяннем, якія зафіксавалі на відэа, будзе дадзеная крымінальна-прававая ацэнка, – дадала Папова.

**Аддзел інфармацыі.**

## Следчыя завяршылі расследаванне аб перакрыцці Вялікага Гасцінца ў Маладзечне

Прэс-служба Следчага камітэта Беларусі паведаміла, што Маладзечанскі раённы аддзел СК завяршыў расследаванне крымінальнай справы па перакрыцці Вялікага Гасцінца.

21 лістапада каля 10 гадзін некалькі чалавек на Вялікім Гасцінцы расцягнулі плакат, перакрылі рух, а пасля сышлі.

Па дадзеных следства, абвінавачаныя загадзя спланавалі перакрыццё. Напрыклад, 40-гадовая жанчына зрабіла банер і, як паведамляе прэс-служба СК, нанесла надпіс радыкальнай накіраванасці. Нагадаем, што на банеры быў надпіс: «Пакуль у краіне беззаконне, супраціўленне – наш доўг».

Прэс-служба СК заяўляе, што абвінавачаныя перашкаджалі ўдзельнікам дарожнага руху, блакавалі праезд грамадскага, спецыяльнага і іншага транспарту. Маладзечанцаў абвінавачваюць па артыкуле 342 Крымінальнага кодэкса «Актыўныя дзеянні, што груба парушаюць грамадскі парадак».

Па справе праходзяць шэсць абвінавачаных. Як вядома «Рэгіянальнай газеце», гэта **Дзмітры Карабейнік**, **Рыгор Саладоўнікаў**, **Ігар Сідаровіч**, **Сяргей Сідаровіч**, **Эліна Карыцька**. Незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна» апублікаваў супольную заяву праваабарончых арганізацый Беларусі, у якой Карабейніка і Саладоўнікава прызналі палітзняволенымі.

Яшчэ адной жанчыне, што зрабіла банер, прад'яўленае абвінавачанне па дапамозе ў актыўных групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак і пацягнулі парушэнне работы транспарту, пры адсутнасці прыкмет больш цяжкага злачынства.

Дзве жанчыны (Карыцька і 40-гадовая жанчына) знаходзяцца пад асабістым паручыцельствам, двое мужчын – Сідаровічы – пад падпіскай аб нявыездзе. Яшчэ двое мужчын – Карабейнік і Саладоўнікаў – пад вартай.

Следства завяршанае, матэрыялы перадалі пракурору для накіравання ў суд. Гэта значыць, што на працягу месяца павінны адбыцца суд.

**Аддзел інфармацыі.**

